№ 7-8




# ПЛЯН ГУТАРКІ АБ ПЕРШЫМ МАІ

1. Гутарку аб Першым маі рэкомэндуецца пачаць з якога-небудзь мясцовага, злабадзённага для данага цэху, заводу, колгасу факту, паступова пераходзячы да міжнародных пытаньняў і да Першага мая. Напрыклад, можна пачаць з пытаньня аб выкананьні прамфінпляну цэхам, групай; калі даклад робіцца ў вёсцы—з пытаньня аб ходзе сяўбы, аб даходнасьці таго або іншага колгасу, або колгасьніка.

2. Шляхам наводзячых пытаньняў патрэбна далей перайсьці да высьненьня агульных прадпасылак, створаных пяцігодкай і вызначаючых магчымасьць даных посьпехаў (расшырэньне вытворчасьці, новыя станкі, масавая колектывізацыя, падвядзеньне пад сельскую гаспадарку тэхнічнай базы). Высьняючы шляхам пытаньняў і адказаў гэтыя прадпасылкі, адначасова трэба задаць конкрэтныя пытаньні, хвалюючыя даны завод, або колгас (прастоі, расцэнкі, нормы, дрэнная дысцыпліна працы, вылазкі клясавага ворага і т. д.). Зусім няправільна некаторыя агітатары думаюць, што ў першамайскія дні трэба гава-

рыць толькі аб дасягненьнях і абыходзіць хвалюючыя масу пытаньні.

Аднак, спыняючыся на хвалюючых пытаньнях і даючы на іх конкрэтныя адказы, ня трэба забываць асноўнай мэты гутаркі—паступова падвесьці слухача да высьненьня цеснай сувязі паміж нашай соцыялістычнай будоўляй і сусьветным рэволюцыйным рухам.

3. Першае мая 1933 г. у нас—у СССР—праходзіць пад лёзунгамі другой пяцігодкі. Неабходна з усёй чоткасьцю проціпаставіць вялізарныя пэрспэктывы нашай другой пяцігодкі і сумныя пэрспэктывы сусьветнага экономічнага крызісу, які паглыбляецца, росту беспрацоўя, галечы, голаду ў краінах капіталізму.

Калі аўдыторыя складаецца з рабочых, зрабіць упор на прамысловы крызіс, калі з сялян—на аграрны. Прывесьці некалькі яскравых фактаў і лічбаў, якія характарызуюць крызіс і бядотнае становішча працоўных у капіталістычных краінах. Калі сярод слухачоў будзе іншакраінны рабочы,—організаваць яго выступленьне. Няхай ён раскажа, што перажыў ён за граніцай. Падвесьці слухача да вываду, што няма іншага выхаду з крызісу, як рэволюцыйны, як узброенае паўстаньне ў барацьбе за ўладу. Падкрэсьліць, што ў той час, калі буржуазія шукае выхаду з крызісу ў вайне і інтэрвэнцыі супроць СССР—у зьнешняй політыцы і ў фашызацыі ва ўнутра-

*най політыцы, пролетарыят* шукае выхаду ў рэволюцыі. На прыкладзе Германіі ўскрыць здрадніцкую ролю соцыял-дэмократыі.

У заключнай частцы гутаркі паставіць пытаньне, што ў дзень Першага мая мы павінны асабліва выразна асазнаць, што мы—рабочыя і колгасьнікі СССР—актыўныя ўдзельнікі сусьветнай рэволюцыі. Наша соцыялістычнае будаўніцтва неаддзяліма ад барацьбы за сусьветную рэволюцыю. Устанавіць шляхам пытаньняў, што СССР зьяўляецца апорай сусьветнай рэволюцыі, што нашы посьпехі ўзьнімаюць рэволюцыйны дух рабочых усіх краін. СССР—ударная брыгада сусьветнай рэволюцыі. Ударная соцыялістычная праца—такі баявы лёзунг Першага мая ў краіне пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва.

## МАТЭРЫЯЛЫ ДА ГУТАРКІ АБ ПЕРШЫМ МАІ

### Гістарычная даведка

Першае мая—дзень міжнароднай пролетарскай солідарнасьці. Гэта—сьвята барацьбы, гэта—дзень, калі рабочая кляса падлічвае свае сілы для барацьбы з ладам, які асуджвае яе на жахі беспрацоўя, на бяздомнае існаваньне на галодную сьмерць.

Пачатак гэтаму сьвяту пакладзен 43 гады таму назад—у 1889 г. на I конгрэсе II Інтэрнацыяналу, быўшага тады Міжнародным аб'яднаньнем рэволюцыйных рабочых.

За чатыры дзесяцігодзьдзі, мінуўшыя са дня першамайскага выступленьня ў рабочым руху адбыліся вялікія зьмяненьні. Усе партыі II Інтэрнацыяналу зьяўляюцца цяпер галоўнай соцыяльнай апорай буржуазіі.

Але дарэмна меншавікі і іншыя рэнэгаты ўсіх масьцей спрабавалі апаганіць ідэю Першага мая, адцягнуць увагу пролетарскіх мас ад барацьбы за ўладу, пагоняй за зданьню

дэмократычнай свабоды (свабода коаліцыйі, свабода друку, усеагульнае выбарчае права і т. д.). Баявы сьцяг Першага мая ўжо ў пачатку XX в. перайшоў у рукі бальшавізму, які пранёс яго праз тры рэволюцыі і прывёў да перамогі пролетарыяту ў аднэй шостай частцы сьвету.

Пасьля вайны Першае мая стала днём рэволюцыйнай падрыхтоўкі мас да барацьбы за ўладу.

Там, дзе Першае мая праходзіць пад кіраўніцтвам компартыі, яно ўнушае страх міжнароднаму капіталу. Абцяжаны вялізарнымі злачынствамі перад чалавецтвам, з галавы да пят запэцканы ў крыві працоўных, капіталізм са страхам і ненавісьцю чакае Першага мая.

Яшчэ 38 год назад, седзячы ў пецярбурскай турме, т. Ленін пісаў у першамайскай проклямацыі:

> «Штогод, перад Першым маем пранікаюцца трэпетам нашы ворагі, пачынаючы з дробных фабрыкантаў, канчаючы магутнымі царамі. Яны адчуваюць, што штогоднія сьвяткаваньні Першага мая—ўсёроўна як агляд і манэўры рабочых батальёнаў, гэта ўдары тапара, якія падрубаюць сук, на якім яны сядзяць; гэта стук малатка, які закалачвае крышку іх труны».

З таго часу рэволюцыйныя маёўкі з году ў год станавіліся ўсё большым фактарам росту рэволюцыйнага руху.

У Расіі, напрыклад, да рэволюцыі 1917 г. з году ў год расла колькасьць рэволюцыйных рабочых, дэманстраваўшых у дзень Першага мая сваю рашучасьць змагацца супроць царызму, супроць буржуазіі.

Пасьля Кастрычніцкай рэволюцыі Першае мая становіцца сьвятам ўсіх працоўных у Краіне саветаў—днём дэманстрацыі солідарнасьці Савецкага саюзу з пролетарамі і прыгнечанымі масамі ўсяго сьвету, гатовых сваёй аддананай рашучасьцю змагацца за сусьветную пролетарскую рэволюцыю.

У 1918—1919 гг. першамайскія дэманстрацыі праходзілі пад знакам нязломнай волі працоўных Савецкага саюзу адстаяць сваю пролетарскую дзяржаву ад імпэрыялістычнай інтэрвэнцыі. У 1920—1921 гг. маёўкі праходзілі пад лёзунгам адбудаваньня разбуранай гаспадаркі. У наступныя гады мы крок за крокам адзначалі Першага мая пераможныя крокі Савецкага саюзу: аднаўленьне даваеннага ўзроўню, соцыялістычную рэконструкцыю гаспадаркі, бальшавіцкія тэмпы індустрыялізацыі, а потым і колектывізацыі краіны, завяршэньне пабудаваньня фундаманту соцыялістычнай экономікі.

У гэтым годзе сьвяткаваньне Першага мая праходзіць пад лёзунгамі другой пяцігодкі: за

асваеньне новых гігантаў прамысловасьці, за авалодваньне новай тэхнікай, за тое, каб зрабіць колгасы сапраўды бальшавіцкімі, каб зьніштожыць капіталізм ня толькі ў эканоміцы, але і ў сазнаньні людзей і ператварыць усіх працоўных у актыўных будаўнікоў соцыялізму, за тое, каб хутчэй ажыцьцявіць лёзунг правадыра партыі «зрабіць усіх колгасьнікаў заможнымі».

## Першае мая ва ўмовах гэтага году мае выключнае значэньне

Першае мая 1933 г. будзе мець зусім выключнае значэньне ў гісторыі сусьветнага рэволюцыйнага руху.

Ужо чацьвёрты год ва ўсіх краінах капіталу лютуе нябывалы экономічны крызіс, які па сваёй працягласьці і глыбіні далёка перавышае ўсе калі-небудзь быўшыя крызісы ў гісторыі капіталізму.

Той факт, што сучасны прамысловы крызіс *адбываецца на аснове ўсеагульнага крызісу* капіталістычнай сыстэмы і пераплятаецца з найглыбейшым аграрным крызісам—абумоўлівае вастрату крызісу.

Выключнае значэньне Першага мая гэтага году абумоўліваецца тым, што сёньня, як ніколі, стаў надзвычай вялікім контраст паміж гніеньнем і развалам капіталістычнай сыстэ-

мы і магутным разьвіцьцём будаўніцтва соцыялізму ў Савецкім саюзе.

> «Варта было нам прарабіць будаўнічую работу на працягу якіх-нёбудзь 2—3 год, варта было паказаць першыя посьпехі пяцігодкі, каб увесь сьвет раскалоўся на два лягеры,—на лягер людзей, якія лаюць нас бяз стомы, і лягер людзей, якія зьдзіўлены посьпехамі пяцігодкі,—не гаворачы ўжо аб тым, што ёсьць і ўзмацняецца наш уласны лягер ва ўсім сьвеце—лягер рабочай клясы капіталістычных краін, які радуецца посьпехам рабочай клясы СССР і гатоў аказаць ёй падтрымку на страх буржуазіі ўсяго сьвету». (Сталін).

Ва ўмовах, калі нарастаюць прадпасылкі рэволюцыйнага крызісу асабліває значэньне набывае лёзунг політычнай стачкі, бо ў процэсе абвастрэньня клясавай барацьбы расьце самасазнаньне самых шырокіх рабочых мас, бо ў абстаноўцы посьпехаў будаўніцтва ў СССР і крызісу ў капіталістычных краінах кожная стачка набывае яскрава выражаны політычны характар.

Сучасныя стачкі носяць бурны характар і заключаюць ў сабе элемэнты грамадзянскай вайны. Калі мы возьмем, напрыклад, усеагульную стачку тэкстыльшчыкаў у Лодзі, якая прадаўжалася чатыры тыдні, то ўбачым, што

гэтая стачка ператварыла горад ў ваенны лягер з барыкадамі і вулічнымі баямі. Стачка адбываецца пад кіраўніцтвам комуністаў і рэволюцыйнай профорганізацыі.

13 сакавіка ў адказ на заклік стачкому да ўсеагульнай стачкі да забастоўкі тэкстыльшчыкаў далучыліся мэталісты, рабочыя будаўнічай прамысловасьці, дрэваапрацоўшчыкі, часткова друкары, рабочыя скураной прамысловасьці, краўцы і інш. 16 сакавіка ў Паб'яніцах поліцыя страляла па 10-тысячнай дэмонстрацыі бастуючых. Забіта 7 рабочых, паранена 16. Паб'яніцкі расстрэл выклікаў новую хвалю абурэньня сярод рабочых. На могілках ў Паб'яніцах адбываецца дэмонстрацыя 18 тысяч рабочых.

Да гэтага часу стачкі ахопліваюць новыя раёны: Варшаву, Беласток, Жырардоў, Чэнстохоў, Белхатуў. 23 сакавіка ў знак солідарнасьці з бастуючымі тэкстыльшчыкамі ў Лодзі і радзе іншых тэкстыльных цэнтраў Лодзінскага раёну была праведзена ўсеагульная стачка, якая ахапіла таксама рабочых і служачых гарадзкіх прадпрыемстваў, прыгарадных чыгунак, трамваяў, газавага заводу і інш.

Барацьба пачынае набываць усё больш яскравую політычную афарбоўку. Цэнтральны стачком прымае рэзолюцыю протэсту супроць арышту організацыйнай комісіі левага профсаюзу тэкстыльшчыкаў, супроць фашысцкага

тэрору ў Германіі, пасылае прывітаньне ад імя бастуючых германскаму пролетарыяту і т. Тэльману. 26 сакавіка адбываюцца бурныя дэмонстрацыі (з цяжкасьцю расьсеяныя поліцыяй) перад будынкам германскага консульства ў Лодзі ў знак протэсту супроць разгулу фашысцкага тэрору ў Германіі. Цэнтральны стачком зьвяртаецца за падтрымкай ня толькі да рабочых; ён выпусьціў адозву да сялян, заклікаючы іх да падтрымкі бастуючых, шляхам організацыі сялянскіх стачак. Перадавікі—рэволюцыйныя сяляне адгукаюцца і прымаюць удзел у дэмонстрацыях бастуючых.

Паведамленьне аб тым, што профбюрократы падпісалі ў Варшаве здрадніцкую згоду аб зьніжэньні зарплаты на 15 проц. і аб спыненьні стачкі тэкстыльшчыкаў, выклікала глыбокае абурэньне лодзінскіх рабочых. На 10 гадзін раніцы быў прызначан у адным з кіно-тэатраў ў Лодзі сход фабрычных дэлегатаў і стачачных комітэтаў, на якім прыбыўшыя з Варшавы профбюрократы з пэпээсаўцам Шчаркоўскім на чале павінны былі даць адказ аб рэзультаце перагавораў з прамысловцамі.

Ужо а 8 гадзіне раніцы рабочыя з прыгарадаў і ўскраін рушыліся да так званага Воднага рынку, паблізу якога павінен быў адбывацца сход фабрычных дэлегатаў. Ня гледзячы на прынятыя поліцыяй надзвычайныя ме-

ры, да моманту пачатку рабочага сходу ў кіно, бліжэйшая плошча аказалася занятай больш чым 10-тысячнай масай стачачнікаў. Рабочыя дэманстравалі пад лёзунгам барацьбы да перамогі.

Перад рабочымі, якія сабраліся, выступілі з прамовамі комдэпутаты Розэнбэрг і Яніна Ігнасяк.

Поліцыя дарэмна прабавала разагнаць мітынг. Рабочыя закідалі яе каменьнямі. Частка рабочых наладзіла дэмонстрацыю перад буйнейшым прадпрыемствам—«Відзеўская мануфактура». На Рокічынскай вуліцы таксама быў наладжан мітынг, які падвёргся нападу поліцэйскіх.

Рабочыя і на гэты раз аказалі ўпорнае супраціўленьне. Поліцэйскія далі залп у натоўп. У рэзультаце, па офіцыйных даных пяць рабочых былі паранены, адна работніца, 17-гадовая тэкстыльшчыца Ядвіга Войцэхоўская, забіта. Паранены таксама некалькі поліцэйскіх: 2 камісары і 3 радавых. Абараняючыся ад поліцыі, рабочыя прабавалі будаваць барыкады, затрымліваючы і перакульваючы трамваі і закідваючы поліцэйскіх каменьнямі. У часе звалкі аказаліся выбітымі вокны ва ўсіх бліжэйшых дамох.

Характэрнай рысай сучаснай, у прыватнасьці, лодзінскай стачкі зьяўляецца стварэньне ў агні баёў ядынага фронту зьнізу паміж ра-

бочымі, ідучымі за комуністамі, і рабочымі, якія знаходзяцца пад уплывам соцыял-фашыстаў.

Вось чаму ў сучасных умовах лёзунг усеагульнай політычнай стачкі будзе адным з асноўных лёзунгаў Першага мая—дня мобілізацыі рэволюцыйных сіл.

## ЧАЦЬВЕРТЫ ГОД КРЫЗІСУ

Крызіс цягнецца каля 4-х год і яму ня відаць канца. Кожны месяц ён ўсё больш адкідае назад капіталістычныя краіны. У цяперашні пэрыод капіталістычная вытворчасьць адкацілася далёка назад да даваеннага ўзроўню, даходзячы ва многіх галінах да ўзроўню канца XIX веку. У параўнаньні з 1928 г. к канцу 1932 г. сусьветная вытворчасьць скарацілася на 38,7 проц. У паасобных асноўных капіталістычных краінах гэтае скарачэньне яшчэ больш значнае. Так, у ПАЗШ яно дасягае 41,2 проц., у Германіі—45,2 проц. Оптавыя цэны на продукты прамысловасьці ўпалі на сусьветным рынку на ⅓. У Германіі замёрла звыш ⅔ прамысловасьці. Становішча машынабудаўнічай і іншых галін было-б яшчэ больш катастрофічным, калі-б не савецкія заказы.

З вялізарнай разбуральнай сілай разьвіваецца крызіс ў Злучаных штатах—гэтай цытадэлі капіталізму. У прыватнасьці, тут няўхільна прадаўжае падаць продукцыя сталяліцейных заводаў, якія яшчэ ў пачатку мінулага году працавалі толькі на 28 проц. сваёй

вытворчай магутнасьці. Ад сусьветнага эканамічнага крызісу ва ўсіх капіталістычных краінах больш за ўсё пацярпела цяжкая прамысловасьць.

Цяпер крызіс ўсё мацней сьціскае ў ціскі нават багатую Францыю, якая доўга ганарылася сваім «працьвітаньнем». Справа дайшла да таго, што ў канцы 1932 г. Францыя адмовілася зрабіць чарговы ўзнос Амэрыцы па сваім ваенным даўгу. Крэдытны крызіс давёў да банкруцтва цэлы рад краін. Германія, Аўстрыя, Вэнгрыя, Баўгарыя, краіны Паўднёвай Амэрыкі і рад іншых аказаліся ня ў стане плаціць па зьнешніх даўгох і рэпарацыях. Англія патрабуе ад ПАЗШ перагляду даўгоў. Галоўнейшыя краіны—крэдыторы—ПАЗШ, Англія спынілі ў 1932 г. прадастаўленьне іншакраінных крэдытаў.

Сусьветны эканомічны крызіс ужо разбурыў устойлівую валюту, выклікаў скасаваньне залатога стандарту—інфляцыю ў цэлым радзе краін (Вялікабрытаніі, Японіі, Паўднёвай Амэрыцы, Скандынавіі. Залаты стандарт фактычна ўтрымаўся толькі ў нямногіх капіталістычных краінах (Швэйцарыі, Галяндыі, Францыі, Бэльгіі).

Увесь буржуазны сьвет адчувае, што ён ідзе да гібелі і ў фашысцкім тэроры яскрава праяўляюцца перадсьмяротныя сударгі разлажыўшагася капіталістычнага ладу.

## Капіталізм асуджае працоўных на голад і галечу

Найбольш разбуральным вынікам сусьветнага экономічнага крызісу зьяўляецца беспрацоўе. Цяпер, калі колькасьць фабрык і заводаў ня толькі не расьце, але з дня на дзень падае, калі катастрофічна скарачаецца разьмер вытворчасьці, і такія краіны як Амэрыка, Канада, Аўстралія, якія раней адчувалі патрэбу ў рабочай сіле,—цяпер самі задыхаюцца пад ярмом мільённай арміі беспрацоўных. Армія беспрацоўных вырастае да нябачаных разьмераў. Увесь цяжар крызісу буржуазія перакладае на плечы рабочай клясы. Яна выкідвае за борт жыцьця масы галодных беспрацоўных, лік якіх разам з сем'ямі дасягае гіганцкай цыфры—звыш 100 млн. чалавек. Яна ўсё больш зьніжае і без таго жабрацкую зарплату тых «шчасьліўцаў», якім ўдаецца яшчэ працаваць хоць-бы няпоўны тыдзень. Рыхтуючы новыя войны, трацячы шалёныя грошы на ўзбраеньні і на падтрымку капіталістаў і памешчыкаў, яна кладзе цяжар расходаў зноў-такі на плечы працоўных. Падзеньне оптавых цэн вельмі мала адбіваецца на бюджэце рабочага і селяніна. Імкнучыся выйсьці з крызісу за кошт асноўных спажыўцоў тавараў—працоўных усіх краін, капіталісты ўсяляк падтрымліваюць узровень раздробных цэн. Яны зьнішчажаюць вялізарныя запасы

тавараў (пшаніцы, кофэ, бавоўны), дабіваюцца ад сваіх урадаў загараджальных пошлін, заключаюць згоду адзін з другім і ўсё-ж дабіваюцца, што рабочы, атрымліваючы меншую зарплату або жывучы за кошт нікчэмнай дапамогі па беспрацоўі, плоціць ранейшыя цэны за продукты, а селянін, прадаючы за бясцэнак свой ураджай, купляе па высокіх цэнах прамтавары.

Становішча беспрацоўных адчайнае.

Вось як апісвае становішча беспрацоўных у ПАЗШ буржуазны журнал «Нацыя»:

> «Дзень за днём мільёны беспрацоўных апускаюцца ўсё ніжэй і ніжэй. Недаядаючы, усё больш упадаючы ў стан безнадзейнасьці, яны становяцца ўсё менш прыгоднымі да працы.
>
> Кожны дзень прымушае нас усё больш баяцца, таго, што іх цярпеньне лопне і на вуліцах амэрыканскіх гарадоў пральецца кроў».

Той-жа журнал апісвае становішча беспрацоўных Канады:

> «На вучастку зямлі за горадам пабудаваны з дрэва, анучак, бляхі, і ўсякага хламу халупкі. Яны стаяць у стройным парадку, утвараючы вуліцу. Каля халупак сядзяць, ляжаць або ходзяць паўголыя, брудныя, худыя і змучаныя беспрацоўныя, іх жонкі і дзеці. Ложкаў у

халупках няма. Сьпяць яны на сене, пасланым на зямлі. Пасудку таксама няма. Ежу вараць і ядуць з іржавых бляшанак з-пад консэрваў. Мэбляй ім служаць пні».

Такое становішча беспрацоўных у «залатой Амэрыцы» і Канадзе.

Дапамогі па беспрацоўі выдаюцца толькі ў дзевяці краінах, ды і ў гэтых краінах разьмер выдачы дапамог з кожным годам скарачаецца, у той час, як у рабочых, маючых работу, усё растуць адлікі ў фонд дапамогі беспрацоўным. Сярод беспрацоўных лютуе галеча і голад. Іх выкідаюць з кватэр. Яны туляцца на сьметніках, на тротуарах, пад мастамі. Самагубства цэлых сем'яў беспрацоўных вельмі нярэдкая зьява.

У Англіі, дзе каля 3 млн. беспрацоўных, у 1932 г. дапамогі па беспрацоўі былі зьніжаны законам на 10 проц. Урад старанна прымяняе закон аб праверцы матэрыяльнай патрэбы беспрацоўных. Выпадковы заработак або работа аднаго з членаў сям'і служыць повадам для зьняцьця з дапамогі тысяч беспрацоўных.

У ПАЗШ, дзе звыш 13 млн. беспрацоўных, ніякай дапамогі ні ад дзяржавы, ні ад прадпрыемцаў, беспрацоўныя не атрымліваюць. Якую-небудзь дапамогу беспрацоўным (выдача хлеба і супу) аказваюць у некаторых га-

радох дабрачынныя таварыствы часьцей за ўсё за кошт дадатковага муніцыпальнага абкладаньня працуючых рабочых.

У Японіі, дзе 2840 тыс. беспрацоўных, ніякай дапамогі ні ад дзяржавы, ні ад прадпрыемцаў беспрацоўныя не атрымліваюць.

У Германіі (больш 7 млн. беспрацоўных) існуе тры віды дапамог: асноўная, крызісная і дабрачынная. Асноўная дапамога большая чым крызісная, а крызісная, большая чым дабрачынная. Калі ў 1931 г. 39 проц. беспрацоўных атрымлівалі асноўную дапамогу, то ў 1932 г. асноўную дапамогу атрымлівалі толькі 19 проц. беспрацоўных. Пасьля пэўнага тэрміну беспрацоўнага пераводзяць з асноўнага віду дапамогі на крызісную, а потым на дабрачынную—жабрацкую дапамогу.

У надзвычайна цяжкім становішчы знаходзяцца і тыя рабочыя, якія яшчэ маюць работу. Вельмі вялікі процант гэтых рабочых працуюць няпоўны тыдзень. У Францыі, напрыклад, каля паловы рабочых занята толькі некалькі дзён у тыдзень. Але і тыя, хто працуе поўны тыдзень, жывуць галадуючы, бо зарплата зьведзена да жабрацкага ўзроўню. Усю цяжкасьць крызісу буржуазія перакладае на плечы рабочай клясы: як тэй частцы, якая беспрацоўная, так і тэй частцы, якая працуе.

У Германіі, напрыклад, паводле падлікаў вядомага экономіста Кучынскага, агульнае скарачэньне зарплаты прамысловых рабочых,

пачынаючы з ліпеня 1929 г. (вышэйшы ўзровень зарплаты пасьляваеннага часу) да канца сьнежня 1932 г., склала каля 23 млрд. марак (марка—46 кап.). З 1929 па 1931 г. зарплата рабочых зьнізілася на 30—40 проц., а ў тэкстыльнай прамысловасьці, дзе занята каля 70 проц. жанчын, зарплата зьнізілася на 50 проц. У 1932 г. надыйшло далейшае зьніжэньне на 30 проц.

Ва ўсіх капіталістычных краінах зараз назіраецца падаўжэньне рабочага дня. У Германіі ў тэкстыльнай прамысловасьці сярэдняя працяглась рабочага тыдню даходзіць да 64 гадзін. У Італіі, Румыніі, Польшчы, Юга-Славіі рабочы дзень складае 10—12 гадзін. У тэкстыльнай прамысловасьці ў ПАЗШ у некаторых штатах рабочыя працуюць 11 гадзін. У Кітаі для рабочых на іншакраінных прадпрыемствах уведзен 13—14 гадзінны рабочы дзень, на кітайскіх ён цягнецца 15—16 гадзін. У Японіі, ня гледзячы на закон аб 10-гадзінным рабочым дні, рабочыя працуюць 11—13 гадзін, а на радзе дробных прадпрыемстваў—15—16 гадзін, у дзень.

Умовы працы настолькі стамляючыя, што ў радзе галін прамысловасьці — хімічнай, штучнага шоўку, мэталяапрацоўчай—рабочыя праз 2—3 гады трацяць працаздольнасьць і ператвараюцца ў інвалідаў. На прадпрыемствах уведзена конвэерная сыстэма і максымальны тэмп машын. Штат кантролё-

раў устанаўляе ўсё меншыя тэрміны для выпрацоўкі тэй або іншай дэталі. Калі рабочыя не спраўляюцца з атрыманай работай ва ўстаноўленыя тэрміны, яны вымушаны працаваць далей без дадатковай аплаты. За найменшыя нарушэньні правіл на іх накладаюцца штрафы.

Экономічны крызіс, які ўсё паглыбляецца, непарарыўнае наступленьне на жыцьцёвы ўзровень пролетарыяту, імкненьне буржуазіі выйсьці з крызісу за кошт рабочай клясы, за кошт аграбленьня колёній, выклікае далейшы ўздым рэволюцыйнай барацьбы міжнароднага пролетарыяту, рэволюцыйныя выступленьні ў радзе краін, успышкі сялянскіх паўстаньняў, расшырэньне рэволюцыйнага фронту ў колёніях.

І толькі ў СССР—адзінай краіне ў сьвеце няма беспрацоўных, толькі ў СССР зарплата няўхільна расьце, павялічаюцца асыгнаваньні на страхаваньне, жылбудаўніцтва, дамы адпачынку, дзіцячыя ясьлі,—словам на палепшаньне матэрыяльнага становішча працоўных.

## Прамысловаму крызісу спадарожнічае аграрны крызіс

Прамысловаму крызісу спадарожнічае сусьветны аграрны крызіс, які кладзецца ўсім сваім цяжарам на сельскагаспадарчы пролетарыят і бядняцка-серадняцкія слаі сялянства.

Нябывалае падзеньне сельскагаспадарчых цэн пры адначасовым гіганцкім росьце падатковага гнёту прывяло да разарэньня сялянства. Прымусовы распродаж сялянскай маёмасьці за неплацёж даўгоў і падаткаў набыў масавы характар. Вялізарныя масы сялянства пазбаўляюцца зямлі, якая пераходзіць у рукі памешчыкаў, банкаў і ліхфяроў, і ідуць у батракі, або імкнуцца ў гарады, павялічаючы армію беспрацоўных.

Вось некалькі фактаў, якія характарызуюць становішча сялянства ў капіталістычных краінах.

У ПАЗШ за адзін толькі апошні год валавы даход сельскай гаспадаркі скараціўся на 2 млрд. доляраў. На складах Амэрыкі ў цяперашні час ёсьць 362 млн. бушэляў непраданай пшаніцы і 132 500 тыс. кіп непраданай баваўны.

Цэны на сельскагаспадарчыя продукты да надзвычайнасьці нізкія. Так, напрыклад, кварту малака амэрыканскі фэрмэр вымушан прадаваць за 2 цэнты (цэнт—каля 2 кап.) пры сабекошце яе ў 6 цэнтаў. Аднак, рабочаму ні ў якім разе ня прыдзецца купіць гэтае малако і за 2 цэнты. Оптавікі, якія скупляюць па фэрмах сельскагаспадарчыя продукты, нажываюць вялізарныя грошы. У прыватнасьці, тое-ж малако яны прадаюць у горадзе за 14 цэнтаў, г. зн. нажываюць 12 цэнтаў на кварце малака. Зразумела, чаму за апошні час у нека-

торых штатах ПАЗШ рух фэрмэраў супроць оптавікоў набыў масавы характар. Фэрмэры ўстанаўляюць масавыя пікеты на дарогах недалёка ад гарадоў, не дапускаючы дастаўку ў гэтыя гарады продуктаў оптавікамі. У некаторых выпадках яны дзейнічаюць са зброяй у руках. У многіх штатах фэрмэры аказваюць арганізаванае супраціўленьне продажу фэрм за даўгі і падаткі. Праданую з таргоў маёмасьць зварочваюць яе гаспадару.

У Японіі 27 проц. сялян зусім ня маюць зямлі, 42 проц. маюць да 1 гектара зямлі і вымушаны прыарандоўваць яе ў памешчыка. Паводле даных японскага імпэратарскага таварыства земляробства, на кожны гектар сялянскай зямлі падае 257 іен даўгоў (1 іена раўна нашаму рублю), а вытворчая выручка з 1 гектара за год складае 187 іен. Сабекошт коку рысу (асноўнага сельскагаспадарчага продукту ў Японіі) 22 іены, а оптавая цана яго 17 іен. Значыцца, прадаўшы коку рысу, селянін не акупляе нават сваіх расходаў.

Сельская гаспадарка ў капіталістычных краінах не вырабляе і паловы таго, што можна вырабляць пры рацыянальным выкарыстаньні рабочай масы, наяўных машын, пасеўных плошчаў.

Зараз у Амэрыцы, напрыклад, трактары і комбайны ў вялізарнай ступені не выкарыстоўваюцца фэрмэрамі на іх палёх, з пры-

чыны таго, што цэны на сельскагаспадарчыя продукты не забясьпечваюць затрат на гаручае і абслугоўваньне машын.

Капіталістычная сыстэма задыхаецца ў ціскох ёю-ж самой створаных супярэчнасьцяй, прызначаючы на голад і павольную сьмерць мільёны працоўных.

## Рост рэволюцыйнага ўздыму рабочых і сялян

Сусьветны экономічны крызіс выклікаў абвастрэньне клясавай барацьбы ва ўсіх краінах капіталу. Усюды (хоць і не з аднолькавай сілай) ідзе ўздым рэволюцыйнага руху, які знаходзіць сваё выражэньне ў росьце стачак і іншых палітычных выступленьняў пролетарыяту, у росьце компартый і ўзмацненьні іх уплыву на шырокія рабочыя масы, у росьце сялянскіх хваляваньняў і нацыянальна-рэволюцыйнага руху ў колёніях і ў Эўропе (Польшчы, Юга-Славіі).

За тры гады (пачынаючы з 1929) у 15 краінах (ПАЗШ, Германіі, Англіі, Францыі, Польшчы, Японіі, Кітаі і інш.) мела месца 18 794 стачкі, у якіх прыняло ўдзел 8 515 100 чал.

57 проц. усіх стачак, праведзеных у 1931 г. (статыстычныя даныя аб забастовачным руху ў 1932 г. яшчэ не апублікаваны), скончыліся перамогай рабочых. У прыватнасьці, зусім

гэтымі днямі перамогай рабочых скончылася стачка рабочых на фордаўскім заводзе недалёка ад Лёндону, дзе адміністрацыя вымушана была адмовіцца ад сваёй спробы ліквідаваць сыстэму мінімуму зарплаты, а таксама згадзіцца з павышэньнем асноўных расцэнак на 12½—20 проц. Гэтыя факты наглядна гавораць пролетарыяту, што, насуперак сьцьвярджэньням соцыял-фашыстаў, нават ва ўмовах найцяжэйшага крызісу магчымы пераможныя стачкі рабочых.

Але рэволюцыйны ўздым знаходзіць сваё выражэньне ня толькі ў стачках. Мы бачым такія формы рэволюцыйнага руху, як масавая антыімпэрыялістычная барацьба і пасьпяховае разьвіцьцё савецкага руху ў Кітаі; выступленьні антыфашысцкага ядынага фронту комуністычных і соцыял-дэмократычных рабочых у Германіі; бурны ўздым масавага руху з тэндэнцыяй перарастаньня ў народнае ўзбраеньне паўстаньне ў Гішпаніі; баявыя выступленьні рабочых, сялян, салдат, і студэнтаў ў Японіі; мяцеж у англійскім, а потым у голяндзкім флёце; рух вэтэранаў у ПАЗШ; барыкадныя бai з поліцыяй бастуючых у Францыі і Амэрыцы і т. д.

Новым ва ўсіх гэтых выступленьнях зьяўляюцца іх бурныя формы, якія заключаюць у сабе элемэнты грамадзянскай вайны.

Іменна гэты колькасны і якасны рост рэволюцыйнага ўздыму ва ўсіх краінах даў магчымасьць XII пленуму ВККІ сьцьвярджаць, што «зьдзяйсьняецца пераход да новага туру буйных сутыкненьняў паміж клясамі...да новага туру рэволюцый і войн».

## У Кітаі змагаюцца дзьве сыстэмы

Буйнейшым фактарам разьвіцьця міжнароднага рэволюцыйнага ўздыму зьяўляецца шырокае разгортваньне савецкага руху і антыімпэрыялістычнай барацьбы ў Кітаі. У Кітаі ідзе зараз барацьба паміж дзьвюма сыстэмамі—памешчыцка-буржуазным панаваньнем у асобе Гоміндану і рэволюцыйна-дэмократычнай дыктатурай рабочай клясы і сялянства—у асобе Саветаў. Наяўнасьць савецкай улады ў Кітаі на тэрыторыі, якая населена 50—60 млн. людзей; наяўнасьць савецкай улады, якая стварыла моцную Чырвоную армію, якая пасьпяхова адбівае атакі контррэволюцыйнай гомінданаўскай арміі, якая ў сваю чаргу наступае на тэрыторыю Гоміндану; меч рабочасялянскай ўлады—ДПУ—яскрава сьведчыць аб тым, што народы Ўсходу ўключыліся ў сусьветную сацыялістычную рэволюцыю. Гэтая схватка дзьвюх сыстэм адбываецца ва ўмовах нашэсьця японскага імпэрыялізму і заўзятай барацьбы сусьветных драпежнікаў за падзел Кітаю.

## Германія—зіяючая рана капіталістычнай Эўропы

Выключнае значэньне для лёсу рэволюцыі ў Эўропе і ва ўсім сьвеце мае рэволюцыйны ўздым у Германіі.

Германія—гэта самае слабае зьвяно ў капіталістычнай Эўропе з найбольш падарванай сярод буйных капіталістычных дзяржаў экономічнай сыстэмай, з найбольшым абвастрэньнем клясавай барацьбы. Рэволюцыйны ўздым у Германіі знаходзіць сваё выражэньне ў вялізарным росьце ўплыву компартыі, у растучай цязе мас да стварэньня ядынага фронту зьнізу ў барацьбе супроць наступленьня капіталу і фашызму. Пролетарыят Германіі (у тым ліку і соцыял-дэмократычныя рабочыя насуперак прыстасоўніцтву іх правадыроў) дае адпор нячуванаму тэрору фашысцкіх банд, організоўвае абарону рабочых кварталаў і жыльля, уступае ў сутыкненьні з фашысцкімі атрадамі, організоўвае забастоўкі і стачкі. Ня гледзячы на жорсткі тэрор, на выбарах у рэйхстаг 5 сакавіка пролетарыят Германіі аддаў компартыі каля 5 млн. галасоў. Прыход да ўлады фашызму ў абстаноўцы самага жорсткага экономічнага і політычнага крызісу капіталізму зусім не азначае адліў рэволюцыі. Мы бачым нябывалае згуртаваньне сіл контррэволюцыі ў Германіі

іменна таму, што на фронт рэвалюцыі выходзяць ўсё больш шырокія масы рабочых.

Яшчэ Маркс зусім выразна сказаў аб тым, што «партыя рэвалюцыі згуртоўвае партыю рэакцыі».

## Польшча—краіна рабочага і сялянскага руху

Рост рэвалюцыйнага руху ў Польшчы побач з ростам рэвалюцыйнага ўздыму ў Германіі—гэта рашаючы фактар у падрыхтоўцы рэвалюцыйнага выбуху ў важнейшых капіталістычных краінах. Рэвалюцыйны ўздым ў Польшчы знаходзіць сваё выражэньне ў масавых забастоўках, у растучым абвастрэньні рэвалюцыйнай барацьбы сялянства ў шырокай хвалі нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Украіне, Беларусі і інш. інародчых ускраінах. Хваля стачачнага руху ў Польшчы паднімаецца ўсё вышэй, ня гледзячы на гнятучае беспрацоўе і фашысцкі тэрор.

Колькасьць стачак у Польшчы неперарыўна расьце. Калі з 1 лістапада 1930 г. па сьнежань 1931 г. тут было 163 стачкі, якія ахапілі 202 тыс. удзельнікаў і далі 1 741 тыс. страчаных працадзён, то за адзін толькі першы квартал 1932 г. мы налічваем 37 стачак, якія ахапілі 627 тыс. удзельнікаў і далі 3 031 тыс. страчаных працадзён. Ня гледзячы на тэрор і беспрацоўе ў Польшчы мы маем высокі процант пасьпяховых стачак. Так, 8 месяцаў, пачына-

ючы з лістапада 1930 г., далі 34 проц. пасьпяховых стачак, а ў 1932 г. мы маем ужо звыш 50 проц. стачак, якія скончыліся перамогай рабочых.

Верным саюзьнікам пролетарыяту ў Польшчы выступае працоўнае сялянства.

Сялянскі рух тут набыў шырокі размах. Выступленьні нярэдка пераходзяць у вялікія масавыя баі, якія ахапляюць сялянства некалькіх раёнаў.

Вось, напрыклад, як апісвае буржуазная кракаўская газэта хваляваньні сялян у вобласьці Патро, выкліканыя скасаваньнем урадам закону аб праве выкарыстаньня сялянамі гальля ў дзяржаўным лесе для ацяпленьня.

> «У дзень прыбыцьця дэлегацыі ад ваяводзтва з мэтай скасаваньня сэрвітутаў сабралася ўсё насельніцтва ўсіх 7 абшчын, узброенае палкамі і віламі. Па закліку нейкага невядомага,—насельніцтва асадзіла будынак, дзе знаходзілася комісія, і жорстка расправілася з членамі яе. Частка з іх скрылася ў гарах. Але горныя сяляне не супакоіліся; яны рассыпаліся ланцугом, каб знайсьці членаў комісіі. Апошняй удалося паведаміць жандармэрыю, якая ўступіла з сялянамі ў лютую барацьбу. Сяляне рэгулярна адбівалі ўдары, абараняліся каменьнямі і ў пэўны момант яны стройнымі радамі

перайшлі ў контратаку, пускаючы ў ход вілы. Толькі вялікім атрадам паліцыі, выкліканай з суседніх мясцовасьцяй, удалося супакоіць паўстаньне».

Шырокае разьвіцьцё рэвалюцыйнага сялянскага руху мы бачым ня толькі ў Польшчы. На аснове працяглага аграрнага крызісу мы бачым магутнае разьвіцьцё сялянскага руху ва ўсім сьвеце.

Разгортваньне шырокага рэвалюцыйнага сялянскага руху зьяўляецца неадымнай сустаўной часткай падрыхтоўкі пролетарыяту да рашаючых баёў.

## Сусьветны крызіс абвастрыў супярэчнасьці паміж капіталістычнымі краінамі

Сусьветны крызіс абвастрыў ня толькі клясавыя супярэчнасьці, але і супярэчнасьці паміж капіталістычнымі краінамі. Кожная імпэрыялістычная краіна з аднаго боку, імкнецца палепшыць сваё становішча за кошт другой і ўсе імпэрыялістычныя краіны імкнуцца ўмацавацца шляхам нябачанага ўзмацненьня эксплёатацыі колёній,—з другога.

Імпэрыялісты напружваюць усе сілы, каб самым бязьлітасным чынам падавіць нацыянальна-вызваленчы рух ў колёніях. Вось як, напрыклад, апісвае становішча ў Індыі і на Далёкім Усходзе францускі пісьменьнік Ромэн Ролян:

«Тут пануе скрытае або яўнае асаднае становішча. Людзі тысячамі асуджаюцца або гніюць памногу год у турмах і ў концэнтрацыйных лягерах. У маі 1932 г. у англійскай Індыі налічвалася 80 тыс. зьняволеных.

У голяндзкай Індыі на 1-е студзеня 1932 г. было 10 тыс. палітычных зьняволеных, у Кітаі, ня лічачы катакомбы загінуўшых у разьні і бойках—50 тыс., у Карэі—35 тыс. Мы ўжо не гаворым аб многіх тысячах арыштаваных, закатаваных, асуджаных у Японіі, аб шматтысячных афярах у італьянскіх, бэльгійскіх, португальскіх колёніях, у Паўднёвай Афрыцы, а таксама аб д'ябальскім імпэрыялізьме янкі, гэтай сумесі крывадушша і лютасьці, які ператварае цэрквы ў комі-вояжэраў «Стандарт-Ойль», які грае ролю апекуна прагніўшых наскрозь маршалаў Гоміндану і пагромшчыкаў на Кубе, які прадастаўляе Філіпінам незалежнасьць для таго, каб іх лягчэй можна было-б заняволіць экономічна, і які распальвае ў Паўднёвай Амэрыцы агонь войн і крывавых дыктатур».

Мы бачым зараз у капіталістычных краінах усеагульную таможанную вайну, павышэньне таможанных тарыфаў на іншакраінныя тавары.

Нябывалага абвастрэньня дасягнулі германа-францускія і германа-польскія адносіны. Узрасьлі супярэчнасьці паміж Англіяй і ПАЗШ, бо лопнула, устаноўленая Вэрсальскай згодай, цэлая сыстэма рэпарацый, даўгоў і плацяжоў разьлічаная ў асноўным на аграбленьне Германіі. Вэрсальскі мір трашчыць па ўсіх швох,—Германія абанкруцілася і ня можа плаціць па сваіх абавязацельствах. Эўрапейскія краіны-пераможцы (Францыя, Англія), пазбаўленыя залатой крыніцы разаронай Германіі, адмаўляюцца плаціць Амэрыцы. Крызіс зьмёў згавор, які існаваў паміж дзяржавамі пераможцамі (ПАЗШ, Англіяй, Францыяй) у справе аграбленьня пераможаных.

Прадаўжэньнем Вэрсальскага дагавору зьяўляецца Вашынгтонская згода, якая прадугледжвала плян аграбленьня Кітаю імпэрыялістамі. Гэтая згода фактычна сарвана ўтаржэньнем Японіі ў Кітай. Пачынаецца новая барацьба за падзел Кітаю. У прыватнасьці адносіны паміж Японіяй і ПАЗШ настолькі абвастрыліся, што ПАЗШ перавялі свой флёт у Ціхі акіян.

Да крайнасьці абвастрыліся англо-амэрыканскія супярэчнасьці ў барацьбе за рынкі ў Паўднёвай Амэрыцы і іншых колёніях.

Адначасова з гэтым абвастраюцца англа-францускія супярэчнасьці. Праўда, Англія ўнікае адкрытых конфліктаў з Францыяй, маючы на ўвазе неабходнасьць сумеснымі сіламі

змагацца супроць ПАЗШ, але цішком прыкладае ўсе меры, каб не дапусьціць французкай гегемоніі ў Эўропе.

Карціну важнейшых імпэрыялістычных супярэчнасьцяй дапаўняюць італа-французскія супярэчнасьці, якія праявіліся асабліва рэзка ў сутыкненьнях паміж Італіяй і Юга-Славіяй (адзін з васалаў Францыі) у барацьбе за Албанію.

З кожным днём усё мацней і мацней заблытваецца клубок капіталістычных супярэчнасьцяй.

## Буржуазія шукае выхаду ў вайне

У абстаноўцы ўсё растучага рэволюцыйнага руху і капіталістычных супярэчнасьцяй, якія ўсё абвастраюцца, у капіталістычным лягеры ўсёй часьцей чуваць галасы за неабходнасьць вайны як адзінага выхаду з крызісу, што стварыўся. Буржуазныя экономісты ўсё часьцей выступаюць з «навуковым» абгрунтаваньнем спрыяючага ўплыву вайны на разьвіцьцё продукцыйных сіл капіталізму.

Амэрыканскі банкір Мозэр заяўляе, напрыклад, у сваёй кнізе «Новыя шляхі да працьвітаньня»:

> «Разбуральныя сілы вайны зьяўляліся часта конструкцыйнымі фактарамі, якія выклікалі пэрыоды працьвітаньня. Мы можам напомніць, што вайна стварае вя-

лізарны стымул для спажываньня, непродукцыйнага і нават антысоцыяльнага спажываньня, але як-бы то ні было— спажываньня. Асновай для інтэнсыўнай актыўнасьці або звышактыўнасьці прамысловасьці, што называецца звычайна працвітаньнем, вельмі часта зьяўлялася падзея, якая паражала жыцьцё мільёнаў».

Такім чынам, гэты капіталіст, які прагне вызваліцца ад мільёнаў незадаволеных беспрацоўных, кінуўшы іх, як пушачнае мяса на вайну, цынічна прызнае, што капіталістычнае працьвітаньне аснована на гібелі жыцьця мільёнаў.

Мы ўжо маем спробы капіталістычнага сьвету ўжыць вайну, як лекавы сродак супроць лютага крызісу. Імпэрыялістычная Японія пачала вайну з паўколёніяльным Кітаем, спадзяючыся перамагчы зьбядненьне і непаладкі ў сябе дома за кошт кітайскіх працоўных мас.

Рыхтуючыся на працягу раду год да грабежніцкай вайны супроць Кітаю, японскі імпэрыялізм загадзя вёў адпаведную апрацоўку грамадзкай думкі пры дапамозе спэцыяльна прыстасаваных «ідэй».

Японскія імпэрыялісты і іх соцыял-лёкаі ўсяляк стараюцца пераканаць японскіх рабочых і сялян, нібы ўсе бядоты і жудасная га-

леча, якую яны церпяць, выцякае з перанасяленьня Японіі.

Аб проблеме перанасяленьня і адзіным выхадзе — неабходнасьці заваяваньня новых ўрадлівых зямель не перастаюць гаварыць японскія газэты і журналы. Японскія соцыял-дэмократы, спасылаючыся на тое-ж праславутае перанасяленьне, апраўдваюць захват і заняволеньне японскім імпэрыялізмам Манчжурыі і Монголіі. Ім уторацць рускія белагвардзейцы, сэрцу якіх вельмі зразумела ідэя «Вялікай Японіі», разьлічаная на прасоўваньне ня толькі на кітайскія, але і на савецкія землі. Белагвардзейскі профэсар Мілюкоў у сваёй кнізе «Расія на пераломе» выслаўляе і апраўдвае японскі імпэрыялізм. Ён заяўляе, што Японія можа выйсьці з крызісу толькі за кошт «расшырэньня свайго ўплыву на суседнім контынэнце або ў бок Кітаю або ў бок Сібіры.

Утаржэньне японскага імпэрыялізму ў Кітай і выклікала яшчэ большае абвастрэньне імпэрыялістычных супярэчнасьцяй, якія ў любы момант могуць прарвацца ў новай імпэрыялістычнай бойні за перадзел сьвету.

## Расьце нябясьпека нападу на СССР

Але калі мы гаварылі аб усё растучых супярэчнасьцях у буржуазным сьвеце, то яшчэ больш, чым калі-б там ні было зараз—ва ўмовах канца капіталістычнай стабілізацыі—вы-

ступае асноўная супярэчнасьць паміж імпэрыялістычным сьветам і СССР.

Усеагульны крызіс капіталізму знаходзіць сваё найбольш яскравае праяўленьне ў расколе ядынай сусьветнай гаспадаркі на дзьве непрымірымыя сыстэмы—капіталістычную і соцыялістычную. У той час, як капіталістычная гаспадарка з кожным месяцам адкачваецца ўсё далей назад,—савецкая краіна адзіная ў сьвеце ідзе ўперад. Посьпехі СССР расхістваюць ўстоі і без таго патрасёнага капіталізму. Зразумела чаму:

> «Кожны раз, калі капіталістычныя супярэчнасьці пачынаюць абвастрацца, буржуазія накіроўвае свае ўзрокі ў бок СССР; ці нельга вырашыць тую або іншую супярэчнасьць капіталізму, або ўсе супярэчнасьці, разам узятыя, за кошт СССР—гэтай краіны Саветаў, цытадэлі рэволюцыі, якая рэволюцыянізуе адным сваім існаваньнем рабочую клясу і колёніі, перашкаджае наладзіць новую вайну, перашкаджае перадзяліць сьвет панову, перашкаджае гаспадарыць на сваім абшырным унутраным рынку, так неабходным капіталістам іменна цяпер, у сувязі з экономічным крызісам» (С т а л і н).

Ваенны захват Манчжурыі, якая непасрэдна граніча з СССР, зьдзейсьнены з дапамо-

гай французскага імпэрыялізму, пад прыкрыцьцём мірных заяў Лігі нацый і II Інтэрнацыяналу, концэнтрацыя японскіх войск ля граніц Савецкага саюзу,—маюць мэтай ператварыць Манчжурыю ў пляцдарм для антысавецкага нападу.

Вайна супроць СССР мае для імпэрыялізму двоякі сэнс: па-першае, выступае як форма імпэрыялістычнага наступленьня, і ў гэтым сэнсе зьяўляецца для імпэрыялізму барацьбой за перадзел сьвету; па-другое, яе галоўная задача—зьніштожыць ачаг сусьветнай рэволюцыі, які расхіствае самым фактам свайго існаваньня асновы капіталізму.

Але калі да гэтага часу капіталісты ўсё яшчэ не адважваюцца пачаць вайну з СССР, то гэта аб'ясьняецца, галоўным чынам, нашымі посьпехамі ў гаспадарчым будаўніцтве, усё ўрастаючай магутнасьцю нашай краіны і нашай Чырвонай арміі. Буржуазія баіцца зрабіць напад на Краіну саветаў.

> «Інтэрвэнцыя ёсьць палка з двума канцамі. Гэта ў дакладнасьці вядома буржуазіі. Добра, думае яна, калі інтэрвэнцыя пройдзе гладка і кончыцца паражэньнем СССР. Ну, а як быць, калі яна кончыцца паражэньнем капіталістаў. Была-ж бо ўжо адна інтэрвэнцыя, якая кончылася крахам. Усе бачаць, што цяпер бальшавікі куды мацнейшыя і эко-

номічна і палітычна, і ў сэнсе падрыхтоўкі абараназдольнасьці краіны. А як быць з рабочымі капіталістычных краін, якія не дадуць інтэрвэніраваць СССР, якія будуць змагацца супроць інтэрвэнцыі і якія ў выпадку чаго могуць ударыць у тыл капіталістам» (Сталін).

Вось у чым крыецца прычына нерашучасьці буржуазіі ў нападзе на СССР.

## Фашызм—апошняя стаўка капіталу

У новых імпэрыялістычных войнах, у інтэрвэнцыі супроць СССР буржуазія шукае выхаду ў зьнешняй палітыцы. Ва ўнутранай палітыцы яна шукае выхаду ў фашызацыі.

Фашызм—продукт усеагульнага крызісу капіталізму. У абстаноўцы рэзкага абвастрэньня клясавай барацьбы, нарастаньня колёніяльных і пролетарскіх рэволюцый буржуазія ня можа кіраваць і распраўляцца з працоўнымі масамі парляманцкімі сродкамі. Яна вымушана ўсё ў большай меры зрываць з сябе фігавыя лісты «соцыяльных» мерапрыемстваў і пераходзіць да сыстэмы адкрытага тэрору супроць працоўных мас.

Калі, да пары да часу буржуазія магла спраўляцца з рабочай клясай з дапамогай соцыял-дэмократыі, то рэзкае абвастрэньне кля-

савых супярэчнасьцяй і рост уплыву компартыі прымусілі буржуазію перайсьці да непрыкрытага насільля над працоўнымі.

Масавыя арышты і забойствы рэволюцыйных рабочых, катаваньні, яўрэйскія пагромы,—вось мэтоды «аднаўленьня парадку» ў цяперашняй Германіі. Забаронена компартыя. Кінуты ў турму т. Тэльман і іншыя яе правадыры.

Замест абяцанай работы Гітлер даў масам расстрэлы, замест хлеба—кроў.

Гітлер—апошняя стаўка германскай буржуазіі, як наогул фашызм—апошняя надзея сусьветнага капіталу.

Прыход фашыстаў да ўлады ня быў-бы магчымым, калі-б с.-д. фактычна не дапамагала ў гэтым фашыстам, калі-б с.-д. не дапамагла буржуазіі правесьці фашысцкую дыктатуру. Социял-дэмократыя на вачох ва ўсіх падтрымлівае крывавы ўрад Гітлера, пасылае за граніцу сваіх правадыроў для абароны фашысцкай дыктатуры ў вачох эўропейскіх рабочых.

Вось што гаворыць аб гэтым Выканком Комінтэрну ў сваёй рэзолюцыі аб політычным становішчы ў Германіі:

> «Германская социял-дэмократыя, за якою ішла большасьць пролетарыяту ў лістападаўскай рэволюцыі 1918 г., раскалола рабочую клясу і замест таго, каб

весьці рэвалюцыю ўперад да дыктатуры пролетарыяту і соцыялізму, што зьяўлялася-б абавязкам пролетарскай партыі, яна ў саюзе з буржуазіяй і кайзэраўскімі генэраламі разграміла паўстаньне рэвалюцыйных мас і паклала пачатак глыбокаму расколу рабочай клясы Германіі. Яна пад флагам супрацоўніцтва з буржуазіяй і тактыкі «меншага зла», у саюзе з буржуазіяй і прыўхваленьня ўсяго II Інтэрнацыяналу, прадаўжала гэтую політыку жорсткіх рэпрэсій супроць рэвалюцыйнага руху і лінію расколу рабочай клясы да апошніх дзён. Яна закрыла Саюз чырвоных франтавікоў, забараняла рэвалюцыйныя рабочыя організацыі, забараняла і расстрэльвала рабочыя дэмонстрацыі, зрывала эканомічныя і політычныя стачкі супроць наступленьня капіталу і фашызму і падтрымлівала ўладу контррэвалюцыйнай буржуазіі. Соцыял-дэмократыя концэнтравала ў руках сваёй корумпіраванай бюрократычнай верхавіны кіраўніцтва масавымі рабочымі організацыямі. Яна выключала з іх рэвалюцыйных рабочых і сеткай падпарадкаваных ёй цэнтралізаваных рабочых організацый зьвязала ініцыятыву рабочых мас, падарвала іх баяздольнасьць у барацьбе супроць капіталу і фашызму і перашкодзіла даць

рашучы адпор наступаючай фашысцкай дыктатуры і тэрарыстычным фашысцкім бандам. Гэтая палітыка барацьбы супроць рэвалюцыйных мас, супрацоўніцтва з буржуазіяй і дапамогі рэакцыі пад выглядам тактыкі «меншага зла» была і ёсьць палітыка ўсяго II і Амстэрдамскага Інтэрнацыяналаў, пачынаючы з 1914 г. да цяперашняга часу.

У той час, як комуністы адстойвалі **рэволюцыйны** ядыны фронт рабочай клясы **супроць буржуазіі, супроць фашызму**, соцыял-дэмократыя, наадварот, штурхала рабочых у бок **рэакцыйнага** ядынага фронту з буржуазіяй **супроць комуністаў, супроць комуністычных** рабочых, разграмляючы і падвяргаючы рэпрэсіям комуністычныя організацыі заўсёды і ўсюды, калі і дзе прадстаўлялася для гэтага магчымасьць...

Такім чынам, устанаўленьне фашысцкай дыктатуры ў Германіі зьяўляецца ў канчатковым фазе вынікам соцыял-дэмократычнай палітыкі супрацоўніцтва з буржуазіяй на працягу ўсяго існаваньня Вэймарскай рэспублікі. Соцыял-дэмократыя неаднаразова заяўляла, што яна ня будзе мець нічога супроць таго, калі Гітлер прыдзе да ўлады «конституцыйным» шляхам. Ужо пасьля прыходу да ўлады Гітлера, 2 лютага,

«Форвэртс» заяуляў, што без соцыял-дэмократыі такі чалавек, як Гітлер, ня мог-бы быць рэйхсканцлерам...

Але буржуазія, яе фашысцкія і соцыял-фашысцкія лёкаі мыляюцца, калі думаюць, што фашысцкая дыктатура выратуе яе ад крызісу, ад банкруцтва, ад рэволюцыі...

Фашысцкая дыктатура, апіраючыся на ўзброеную банду нацыянал-соцыялістаў і «Стальны шлём» і адкрываючы грамадзянскую вайну супроць рабочай клясы, скасоўваючы ўсе правы пролетарыяту, разам з тым разьбівае соцыял-дэмократычныя тэорыі аб магчымасьці заваёвы парляманцкай большасьці шляхам выбараў і мірнага разьвіцьця, без рэволюцыі, да соцыялізму. Яна разьбівае соцыял-дэмократычныя тэорыі аб клясавым супрацоўніцтве з буржуазіяй і політыцы «меншага зла» і зьніштажае ўсе **дэмократычныя** ілюзіі ў шырокіх рабочых масах...

Адначасова становіцца ясным, што агалцелая фашысцкая дыктатура Гітлера, якая пачала грамадзянскую вайну ў краіне, ня можа вырашыць ніводнага політычнага і экономічнага пытаньня сучаснай Германіі. Нястача і галеча мас узрастаюць з кожным днём...

> Становіцца ясным, што Гітлер вядзе Германію да экономічнай катастрофы, якая становіцца ўсё больш нямінучай...»

Баявы штаб сусьветнай рэволюцыі ўстанаўляе, што:

> «Цяперашняе зацішша пасьля перамогі фашызму ёсьць часовая зьява. Рэволюцыйны ўздым у Германіі, насуперак фашысцкаму тэрору, нямінуча будзе нарастаць. Адпор мас фашызму ня можа не расьці. Устанаўленьне адкрытай фашысцкай дыктатуры, разьбіваючы ўсе дэмократычныя ілюзіі ў масах і вызваляючы масы з-пад уплыву соцыял-дэмократыі, паскарае тэмп разьвіцьця Германіі да пролетарскай рэволюцыі».

Таму патрэбна:

> «умацоўваць партыю і ўзмацняць усе масавыя організацыі пролетарыяту, падрыхтоўваючы масы да рашаючых рэволюцыйных бітваў, да зьвяржэньня капіталізму, зьвяржэньня фашысцкай дыктатуры шляхам узброенага паўстаньня».

### Лёзунг Першага мая ў капіталістычных краінах—за рэволюцыйны выхад з крызісу

У дзень Першага мая рабочыя капіталістычных краін, прызначаныя на жахі беспра-

цоўя; на гібель, пад кулямі жандармэрыі, выйдуць на вуліцу пад лёзунгам рэволюцыйнага выхаду з крызісу.

У дзень Першага мая міжнародны пролетарыят выступіць на вуліцы капіталістычных гарадоў пад сьцягам Комінтэрну супроць фашызму і соцыял-фашызму, супроць вайны і інтэрвэнцыі, за абарону СССР—бацькаўшчыны працоўных усіх краін, за пролетарскую рэволюцыю, за перамогу дыктатуры пролетарыяту ва ўсім сьвеце.

Сваіх перамог Савецкі саюз дабіўся пры падтрымцы сусьветнага пролетарыяту.

Гэтая падтрымка пачалася яшчэ з таго часу, калі ў момант першай інтэрвэнцыі толькі што народжаную Краіну саветаў браў за горла сусьветны капітал.

Тады рабочыя і сяляне капіталістычных краін організавалі комітэты «Рукі прэч ад Расіі» і перашкаджалі адпраўцы зброі арміям, якія ваююць супроць Краіны саветаў.

Зараз сымпатыі шырокіх мас працоўных усіх краін да Краіны саветаў, іх гатоўнасьць абараняць нас—перашкаджаюць імпэрыялістам ажыцьцявіць свае інтэрвэнцыяніцкія замыслы.

## ПАД ЗНАКАМ ДРУГОЙ ПЯЦІГОДКІ БУДУЦЬ ПРАЦОЎНЫЯ СССР СЬВЯТКАВАЦЬ ПЕРШАЕ МАЯ

У дзень Першага мая працоўныя Савецкага саюзу выйдуць на вуліцы, каб яшчэ раз перад тварам усяго сусьветнага пролетарыяту падвесьці вынікі сваім перамогам на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, каб падлічыць і яшчэ раз праверыць свае сілы, якія ідуць у бой пад сьцягамі другой пяцігодкі, пад сьцягам барацьбы за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадзтва.

З якімі вынікамі прышлі мы да другой пяцігодкі. Задача першай пяцігодкі заключалася ў тым, «каб ператварыць СССР з краіны аграрнай і немачнай, залежнай ад капрызаў капіталістычных краін,—у краіну індустрыяльную і магутную ўпаўне самастойную і незалежную ад капрызаў сусьветнага капіталізму» (Сталін).

Мы вырашылі гэтую задачу. Падводзячы вынікі гэтай найвялікшай нашай работы на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б), т. Сталін гаварыў:

«У нас ня было чорнай мэталюргіі, асновы індустрыялізацыі краіны. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было трактарнай прамысловасьці. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было аўтомобільнай прамысловасьці. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было станкабудаўніцтва. У нас яно ёсьць цяпер.

У нас ня было сур'ёзнай і сучаснай хімічнай прамысловасьці. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было сапраўднай і сур'ёзнай прамысловасьці па вырабу сучасных сельскагаспадарчых машын. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было авіяцыйнай прамысловасьці. У нас яна ёсьць цяпер.

У сэнсе выпрацоўкі электрычнай энэргіі мы стаялі на самым апошнім месцы. Цяпер мы вышлі на адно з першых месц.

У сэнсе дабываньня нафтавых продуктаў і вугалю мы стаялі на апошнім месцы. Цяпер мы вышлі на адно з першых месц.

У нас была толькі адна адзіная вугольна-мэталюргічная база—на Украіне, з якою мы ледзь спраўляліся. Мы дабіліся таго, што ня толькі паднялі гэтую базу, але стварылі яшчэ новую вугольна-мэталюргічную базу—на ўсходзе, якая зьяўляецца гонарам нашай краіны.

Мы мелі толькі адну адзіную базу тэкстыльнай прамысловасьці—на Поўначы нашай краіны. Мы дабіліся таго, што будзем мець у бліжэйшы час дзьве новыя базы тэкстыльнай прамысловасьці—у Сярэдняй Азіі і Ўсходняй Сібіры.

І мы ня толькі стварылі гэтыя новыя вялізарныя галіны прамысловасьці, але мы іх стварылі ў такім маштабе і ў такіх разьмерах, перад якімі бляднеюць маштабы і разьмеры эўропэйскай індустрыі».

Нашы посьпехі маюць міжнароднае значэньне. Яны дэманструюць перавагу соцыялістычнай сыстэмы.

Ад зрокаў міжнароднага пролетарыяту ня скрыеш дымавых труб нашых новых гігантаў. Контуры Днепрабуду, Магнітагорску стаяць, як жывыя, у выбражэньні кожнага пролетара. Кожны з іх ведае, што мы будуем іх у тую пару, калі ва ўсім сьвеце закрываюцца фабрыкі і заводы, калі выкідваюцца на вуліцу мільёны беспрацоўных, прызначаных на бяздомнае існаваньне і галодную сьмерць. Кожны з іх ведае, што толькі ў нас няма беспрацоўя, што толькі ў нас з году ў год расьце матэрыяльны дабрабыт працоўных, што толькі ў нас—у краіне плянавай гаспадаркі—няма і ня можа быць крызісу.

## СССР—краіна самага буйнага земляробства ў сьвеце

Задача першай пяцігодкі заключалася ў тым, «каб перавесьці дробную і раздробненую сельскую гаспадарку на рэльсы буйнай колектыўнай гаспадаркі, забясьпечыць тым самым экономічную базу сацыялізму ў вёсцы і ліквідаваць такім чынам магчымасьць аднаўленьня капіталізму ў СССР» (Сталін).

Мы вырашылі гэтую задачу.

Зараз мы замест 23—25 млн. распыленых паасобных сялянскіх гаспадарак маем звыш 200 тыс. колгасаў і 5 тыс. саўгасаў, прычым гэтыя 200 тыс. колгасаў абслугоўваюцца 2 466 машына-трактарнымі станцыямі — гэтымі асноўнымі вагарамі тэхнічнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Дзякуючы гэтаму мы атрымалі магчымасьць у значнай ступені павысіць эфэктыўнасьць нашай сельскай гаспадаркі. Калі ў пачатку пяцігодкі мы атрымлівалі ад нашай сельскай гаспадаркі каля 600 млн. пудоў збожжа для дзяржавы, то зараз гэтая цыфра дасягае ўжо 1 200—1 400 млн. пудоў.

Пасеўныя плошчы за гэты час павялічыліся на 21 млн. га, прычым тэхнічныя культуры расшырыліся на 75 проц.

У нашай сельскай гаспадарцы адбываецца зараз сапраўдная тэхнічная рэволюцыя; дастаткова сказаць, што ў 1932 г. на палёх на-

шага Саюзу працавала 140 тыс. трактароў. Індустрыялізацыя краіны, дзе вядучым гаспадарчым зьвяном зьяўляецца прамысловасьць і, перш за ўсё, цяжкая прамысловасьць, ператварае СССР з краіны аграрна-індустрыяльнай у краіну індустрыяльна-аграрную.

Колгасы замацаваны і шлях да старой, аднаасобнай гаспадаркі закрыт канчаткова.

> «Цяпер задача заключаецца ў тым, каб умацаваць колгасы організацыйна, вышыбіць адтуль шкодніцкія элемэнты, падабраць сапраўдныя, праверaныя бальшавіцкія кадры для колгасаў і зрабіць колгасы сапраўды бальшавіцкімі. У гэтым цяпер галоўнае» (Сталін).

Гэтая задача складаная і адказная.

Тав. Сталін падкрэсьліў, што перад намі стаіць задача перамагчы труднасьці авалоданьня буйнай сельскай гаспадаркі—200 тыс. колгасаў, 5 тыс. саўгасаў, 2 466 МТС, створанымі за апошні час. Ён падкрэсьліў, што нашы саўгасы і калгасы перажываюць зараз пэрыод падобны да таго, які перажывалі нашы прадпрыемствы ў 1920—21 г., калі працавалі яны яшчэ дрэнна і часта былі не рэнтабэльны.

> «З гэтых слоў т. Сталіна мы павінны зрабіць той адзіна бальшавіцкі вывад,— прыкласьці ўсе сілы да быстрэйшага

асваеньня гаспадаркі і ўдарыць па нашых суб'ектыўных недахопах» (Кагановіч).

Колгасы павінны быць рэнтабэльны. Колгасы павінны быць сапраўды бальшавіцкімі.

## Наш галоўны бой—веснавы бой

Мы маем зараз усе магчымасьці, усе фактычныя прадпасылкі, каб наша вёска сямімільнымі крокамі пайшла па шляху нябачанага росквіту, каб у найкарацейшы тэрмін вырашыць задачу, высунутую т. Сталіным—зрабіць колгасы бальшавіцкімі. Ужо зараз мы маем многа вельмі добрых узораў работы колгасаў і саўгасаў, якія наглядна гавораць аб тых вялізарных магчымасьцях, якія адкрыты перад соцыялістычным сэктарам сельскай гаспадаркі.

Усім, напрыклад, вядома работа колгасаў Безенчукскай МТС, якія ўжо дабіліся ў сярэднім 8 ц ураджаю пшаніцы з гэктара, а паасобныя колгасы гэтай МТС (Гігант №2, ім. Чапаева),—12 ц пшаніцы і 19—20—жыта.

Гэтыя колгасы, жыцьцю якіх можа пазайздросьціць усякі, дабіліся сваіх посьпехаў ва ўмовах, якія нічым не адрозьніваюцца ад іншых колгасаў. Адрозьніваліся яны толькі тым, што іх узначальвалі людзі, якія здолелі забясьпечыць правільнае конкрэтнае кіраў-

ніцтва, якія здолелі зрабіць свае колгасы сапраўды бальшавіцкімі.

Зараз вырашэньне задачы організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў залежыць перш за ўсё ад таго, як нашы партыйныя, савецкія організацыі ў цэлым і кожны раён, кожны колгас у паасобку здолее правесьці веснавую сяўбу, наколькі будуць мобілізаваны ўсе сілы на правядзеньне ў жыцьцё гістарычных указаньняў т. Сталіна аб рашучым палепшаньні кіраўніцтва колгасамі і павышэньні якасьці работы ў вёсцы.

Партыя організоўвае зараз політаддзелы ў МТС і буйнейшых саўгасах, пасылае ў вёску тысячы праверанных бальшавікоў-організатараў.

Ад гэтага часу рэалізацыя гістарычнага лёзунгу т. Сталіна—«зрабіць усіх колгасьнікаў заможнымі» цалкам і поўнасьцю залежыць ад бальшавіцкага кіраўніцтва колгасамі, ад сумленай, чэснай працы колгасьніка, ад правядзеньня бязьлітаснай барацьбы з рэшткамі кулацтва.

Трэба, каб у кожным колгасе колгасны актыў не абмяжоўваўся голай агітацыяй за лёзунг зрабіць колгасьніка заможным. Трэба з алоўкам у руках разам з радавымі колгасьнікамі падлічыць, як гэта на практыцы ў даным колгасе на аснове конкрэтных мерапрыемстваў можа колгасьнік стаць заможным, у

прыватнасьці,—што дасьць колгасьніку новы закон аб пастаўцы зерня дзяржаве.

Умацаваньне працоўнай дысцыпліны ў колгасе і саўгасе, барацьба з гультаём, злодзеем і жулікам у цяперашніх умовах неадлучны ад барацьбы з кулаком.

> «Гэтае пытаньне—пытаньне аб працоўнай дысцыпліне ў колгасах, аб барацьбе з гультаямі, шкоднікамі, жулікамі і зладзеямі—яно характэрна для данага этапу колгаснага будаўніцтва, яно адрозьнівае цяперашні этап колгаснага руху, у ім заключан асноўны зьмест клясавай барацьбы ў цяперашніх умовах, барацьбы з рэшткамі кулацтва, з рэшткамі яго ўплыву ў колгасах» («Правда»).

Такім чынам, мы бачым, што галоўныя карэньні кулацкага супраціўленьня ўпіраюцца ў тую дробнабуржуазную разбэшчанасьць і расхлябанасьць, якія далёка яшчэ ня зжыты ў нашых колгасах.

І асобае значэньне вопыту безенчукскіх колгасьнікаў, іх новага кроку заключаецца ў тым, што яны жалезнай рукой узяліся за навядзеньне ў сябе ў колгасах моцнай працоўнай дысцыпліны. Узяліся за гультаёў, за праверку работы кожнага з пункту гледжаньня яе сумленнасьці і добраякаснасьці. Гэтага якраз не хапае яшчэ многім колгасам і многім парторганізацыям у іх кіраўніцтве колгасамі.

Усесаюзны і Ўсебеларускі зьезды колгасьнікаў-ударнікаў асоба падкрэсьлілі значэньне спаборніцтва ў колгаснай рабоце, значэньне закліку ўдарнікаў пяцігодкі.

Важнейшай задачай работы з колгасным актывам павінна быць організацыя масавага ўздыму ўдарніцтва і соцспабарніцтва і кіраўніцтва ім. Сельскія ячэйкі і праўленьні колгасаў абавязаны ведаць кожнага колгасьніка і колгасьніцу, якія паказалі сябе ўдарнікамі вытворчасьці і загатовак. Гэты актыў павінен склікацца ў колгасах рэгулярна, высоўвацца на колгасную кіруючую работу. Безадкладна павінна быць організавана абмеркаваньне на сходах колгаснага актыву і колгасаў практычных пытаньняў заключэньня дагавору соцспаборніцтва ўнутры брыгады, паміж брыгадамі і колгасамі за падрыхтоўку і правядзеньне веснавой сяўбы: нормы выпрацоўкі, якасьць апрацоўкі поля, догляд за трактарам, канём, машынай, умацаваньне дысцыпліны і ахова грамадзкай уласнасьці, агромерапрыемствы. Соцыялістычныя дагавары павінны быць конкрэтны і зьяўляцца важнейшым опэратыўным дакумантам у брыгадзе і колгасе і іх выкананьне павінна сыстэматычна правярацца пры дапамозе ўсяго колгаснага актыву.

Трэба знайсьці жывыя зразумелыя і ўсім даступныя формы і паказальнікі спаборніцтва. Хіба нельга, напрыклад, разгарнуць спа-

борніцтва брыгад і колгасьнікаў за найбольшы даход колгасьніка. Можна і неабходна. Ухапіўшыся за гэтае зьвяно, можна выцягнуць сёньня ўвесь ланцуг задач пасеўнай кампаніі: пытаньне аб тэмпах сяўбы, якасьці, аб ахове колгаснага насеньня, пасеваў, ураджаю, аб пастаяннай колгаснай брыгадзе і многія іншыя кардынальныя пытаньні колгаснага будаўніцтва. Першага мая ў гэтым годзе мы павінны асабліва шырока разгарнуць у вёсцы ленінскі сьцяг соцыялістычнага спаборніцтва, павінны даказаць аднаасобніку, што колгасны шлях—адзіна верны шлях.

## „Тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі вырашае ўсё“ (Сталін)

Яшчэ два гады таму назад, выступаючы на конфэрэнцыі гаспадарнікаў, т. Сталін падкрэсьліў, што «тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі вырашае ўсё».

На студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б) т. Сталін яшчэ раз указаў, што авалоданьне тэхнікай—цэнтральны вузел усіх гаспадарчых проблем, вырашаемых пролетарыятам ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы.

У пэрыод першай пяцігодкі мы здолелі організаваць энтузіязм, пафос новага будаўніцтва і дабіліся рашаючых посьпехаў. Гэта

вельмі добра. Але цяпер гэтага недастаткова. Цяпер гэтую справу мы павінны дапоўніць энтузіязмам, пафосам асваеньня новых заводаў і новай тэхнікі, сур'ёзным падняцьцем продукцыйнасьці працы, сур'ёзным скарачэньнем сабекошту. У гэтым цяпер галоўнае. Бо толькі на гэтай базе мы можам дабіцца, скажам, у другой палове другой пяцігодкі новага магутнага размаху як у галіне будаўніцтва, так і ў галіне прыросту прамысловай продукцыі (С т а л і н).

Пяцігодка ўзброіла нашу прамысловасьць новай тэхнікай. Калі мы возьмем Беларусь, то і тут за пэрыод пяцігодкі вырасьлі такія гіганты, як Гомсельмаш у Гомелі, шоўкавая фабрыка ў Магілёве, трыкотажны комбінат у Віцебску, «Сьцяг індустрыялізацыі» і інш.

З другога боку, мы ня знойдзем амаль ніводнага прадпрыемства, якое-б ня было нанава рэконструявана, ня вырасла-б у два-тры разы (завод імя Варашылава, «Комунар» (Менск) і інш.)

Але мы таксама, як і ўвесь Савецкі саюз у цэлым далёка яшчэ ня выкарысталі сваіх магчымасьцяй. Скрозь і ўсюды мы ня маем поўнага выкарыстаньня тэхнічнай магутнасьці машын, выкананьня тэхнічна абгрунтаваных норм. Вельмі нярэдка ў нас не забясьпечана тэхнічнае кіраўніцтва ў цэху і агрэгаце, няма штодзеннага вытворчага інструктажу,

несваячасова даводзяцца пляны і нормы да рабочага месца. Каб выканаць задачы, якія стаяць перад прамысловасьцю ў пэрыод другой пяцігодкі мы павінны моцна ўясьніць сабе, што нельга пасьпяхова асвоіць новую тэхніку, не дабіўшыся правільнай організацыі працы і сапраўднай рэалізацыі шасьці ўмоў т. Сталіна.

Аднак, было-б абсолютна няправільным, калі-б мы зьвялі, задачу авалоданьня тэхнікай да голага тэхніцызму, забываючы аб галоўнай продукцыйнай сіле—аб рабочым.

Наконт гэтага мы маем зусім чоткую ўстаноўку т. Сталіна:

> «Рэальнасьць нашага вытворчага пляну—гэта мільёны працоўных, якія твораць новае жыцьцё. Рэальнасьць нашай программы—гэта жывыя людзі, гэта мы з вамі, наша воля да працы, наша гатоўнасьць працаваць па-новаму, наша рашучасьць выканаць плян».

Расьце і пашыраецца з кожным днём масавы рух за авалоданьне тэхнікай, за асваеньне новых вырабаў машын, станкоў, за ўздым продукцыйнасьці і якасьці працы.

Асвоіць новую тэхніку, асвоіць новыя прадпрыемствы, павысіць прадукцыйнасьць працы, падняць працоўную дысцыпліну—такавы лёзунгі Першага мая.

Набліжаецца чацьвертая гадавіна соцспаборніцтва. **На кожным заводзе, на кожнай фабрыцы, саўгасе, МТС, колгасе распаліць яркі Ленінскі агонь соцыялістычнага спаборніцтва**—такая баявая задача кожнага камуніста, комсамольца, кожнага чэснага, адданага рабочага і колгасьніка.

## Мацаваць пролетарскі інтэрнацыяналізм

На СССР зьвернуты ўзрокі ўсіх прыгнечаных народаў сьвету.

Пролетарыят Савецкага саюзу, які перамог, разарваў усе дагавары, навязаныя царскім урадам колёніяльным і паўколёніяльным народам. У прыватнасьці, ён адмовіўся ад атрыманьня боксэрскіх плацяжоў з Кітаю, ад англа-рускай згоды 1907 г. аб падзеле Пэрсіі на зоны ўплыву і інш. СССР на справе ліквідуе спадчыну самадзяржаўя—экономічную і культурную адсталасьць раней прыгнечаных ускраін і паказвае, як трэба па-рэволюцыйнаму вырашаць нацыянальнае пытаньне, невырашымае ва ўмовах капіталізму.

**Савецкая Беларусь**—«жывы прыклад» правільнасьці ленінскай нацыянальнай політыкі. Дастаткова беглага супастаўленьня, каб бачыць, чым была Беларусь царскага часу і чым стала яна пры савецкай уладзе.

**Беларусь царская**—гэта «турма народаў», дзе пакутвала безьзямельнае, выміраючае ся-

лянства, бо з 22 228 тыс. га зямлі 11 645 тыс. належала памешчыкам, князём і папом, а ўсяму насельніцтву беларускаму—толькі 10 384 т.

**Беларусь савецкая**—перадавая рэспубліка, дзе даўно выратана проблема перагасяленьня, дзе 47 проц. сялянскіх гаспадарак увайшлі ў колгасы і за кошт кулака і памешчыка атрымалі 6,30 **га** на колгасны двор, 3,52 **га** на двор аднаасобніка.

**Беларусь царская**—гэта «мяжа аселасьці», дзе мільёны працоўных яўрэяў жылі пад страхам пагрому і голаду, бо ўрад цкаваў яўрэяў і забараняў ім працаваць як на зямлі, так і на прадпрыемстве.

**Беларусь савецкая** назаўсёды выратыла проблему «яўрэйскага мястэчка», бо ўсё працоўнае яўрэйскае насельніцтва ўцягнута ў работу на зямлі або прадпрыемстве.

**Беларусь царская**—гэта краіна, пазбаўленая ўсякай прамысловасьці, бо ўрад імкнуўсяператварыць ускраіны выключна ў сыравінныя раёны, эксплёатуемыя прамыслова больш разьвітым цэнтрам Расіі.

**Беларусь савецкая** з дапамогаю Савецкага саюзу ўклала за гады першай пяцігодкі ў сваю прамысловасьць 264 млн. руб., павялічыла на 300 проц. рабочую клясу і пакрылася магутнымі ачагамі соцыялістычнай індустрыі.

**Беларусь царская**—гэта бясправаўная, паўдзікая краіна, дзе звыш 70 проц. насельніцтва

было няпісьменным, дзе ня было ні аднэй вышэйшай навуковай установы.

**Беларусь савецкая**—гэта культурная краіна, дзе звыш 98 проц. насельніцтва пісьменнае, дзе за гады савецкай улады вырасьлі дзесяткі ВНУ і ВТНУ, цэлыя унівэрсытэцкія і клінічныя гарады, дзе створана адна з буйнейшых бібліотэк у Саюзе.

**Беларусь царская**—гэта жывое пацьверджаньне таго факту, што нацыянальны ўціск зьяўляецца неад'емнай часткай буржуазнага грамадзтва, што нацыянальнае пытаньне ня можа быць вырашана ў рамках капіталізму.

**Беларусь савецкая**—жывое пацьверджаньне таго, што толькі дыктатура пролетарыяту можа скончыць з усякага роду праяўленьнямі нацыянальнага ўціску, забясьпечыць росквіт культуры нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьмесьце.

Вось чаму СССР зьяўляецца апорай колёніяльных рэволюцый супроць імпэрыялізму.

Але посьпехі нацыянальна-культурнага будаўніцтва не павінны ўносіць заспакоенасьць у нашы рады, не павінны прыводзіць нас да самацёку ў нацыянальным пытаньні.

Цяпер, калі мы падышлі шчыльна да пабудаваньня бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва, мы павінны ўзяць новыя вышыні нацыянальна-культурнага будаўніцтва. А гэта можна зрабіць толькі на аснове непрымірымай барацьбы за лінію партыі ў нацыяналь-

ным пытаньні супроць усіх і ўсялякіх ад яе адхіленьняў, супроць буржуазных нацыяналістаў, нацдэмаў, супроць вялікадзяржаўных шовіністаў.

Цяпер патрэбна асобная пільнасьць, бо, пацярпеўшы рашаючае паражэньне ў адкрытых баёх, клясавы вораг прабуе іншымі спосабамі, завуаляванымі мэтодамі змагацца супроць пераможнага будаўніцтва соцыялізму і ў прыватнасьці, накіроўвае сваю зброю супроць ленінскай нацыянальнай політыкі.

За апошні час мы мелі пэўную актывізацыю разгромленых, але недабітых буржуазна-кулацкіх, нацыяналістычных ахвосьцяў і ўзмацненьне вылазак, як у бок вялікадзяржаўнага шовінізму, так і асабліва мясцовага нацыяналізму, контррэволюцыйнага нацыяналдэмократызму.

У дзень Першага мая, у дзень вялікай пераклічкі міжнароднага пролетарыяту, мы павінны мобілізаваць увагу ўсёй парторганізацыі, усяго савецкага, профэсіянальнага і колгаснага актыву на выкананьні гэтых рашэньняў, на пытаньні аб правільным правядзеньні ленінскай нацыянальнай політыкі.

За гэтую справу мы адказваем ня толькі перад сваёй краінай, але і ўсім сусьветным пролетарыятам, перад прыгнечанымі народамі ўсяго сьвету, якія на нашым прыкладзе вучацца вырашаць нацыянальнае пытаньне.

Наш лёзунг Першага мая—вышэй сьцяг пролетарскага інтэрнацыяналізму ў сваёй штодзеннай рабоце.

## СССР—ударная брыгада сусьветнага пролетарыяту

У дзень Першага мая рабочая кляса СССР рапартуе пролетарыяту і прыгнечаным усяго сьвету магутнымі рыштаваньнямі грандыёзных будоўляй, полымем Магнітагорскай і Кузьнецкай домнаў, сотнямі новых прадпрыемстваў, колёнамі трактараў і комбайнаў, новым уздымам социялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва ў горадзе і вёсцы. Мільёны пролетараў і колгасьнікаў, ахопленыя працоўным энтузіязмам, паказваюць узоры нябачанага героізму. Гаварыць аб такіх паасобных прыкладах было-б занадта мала—яны ёсьць ня толькі на Днепрапятроўскіх плацінах, Магнітагорсках і Кузбасах—яны ёсьць на кожным прадпрыемстве, і ў кожным колгасе. Аб разьмерах соцыялістычнага спаборніцтва нам скажуць голыя цыфры: звыш 70 проц. усіх рабочых Саюзу прымаюць удзел ва ўдарным руху.

Наш рапарт яшчэ і яшчэ раз пакажа міжнароднаму пролетарыяту перавагі соцыялістычнай сыстэмы гаспадаркі, пакажа яму адзіны шлях да вызваленьня—шлях рэвалюцыйнага выхаду з крызісу.

---

